# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№ 2 (189)
люты 2018

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"

## У НУМАРЫ:

### Малая Рада "Бацькаўшчыны" ўхваліла план працы на 2018 год

22 лютага ў Мінску адбылося пасяджэнне Малой Рады "Бацькаўшчыны", падчас якога былі зацверджаныя фінансавая справаздача і справаздача дзейнасці Згуртавання за 2017 год, а таксама прыняты план працы на 2018 год.

**Працяг на старонцы 2.**

### У Мінску перапахавалі прах Магдалены Радзівіл

Некаторыя вынікі працы дэлегатаў Сёмага з'езда беларусаў свету ёсць ужо сёння – парэшткі княгіні Магдалены Раздзівіл перапахаваныя ў Мінску. Урну з прахам змясцілі ў левай сцяне ў касцёле Святога Роха.

**Працяг на старонцы 6.**

### Беларусы Канады знялі фільм -казку "То-то-то"

Гэты фільм – выдатны прыклад таго, што можа зрабіць таленавітая і самаадданая каманда сцэнарыстаў, спевакоў, актораў, аператараў і мантажораў.

**Працяг на старонцы 7.**

**Чытайце, пішыце, каментуйце на абноўленым сайце ЗБС "Бацькаўшчына" zbsb.org!**



# ШТО ДЫЯСПАРА РОБІЦЬ ДЛЯ БЕЛАРУСІ? ЗБІРАЕМ ІНФАРМАЦЫЮ РАЗАМ!

Сёння па-за межамі Беларусі пражывае больш за 3,5 мільёны беларусаў. Тое, што гэта багаты патэнцыял для развіцця нашай краіны, – цяпер ужо агульнапрызнаны факт, і адно з яскравых сведчанняў гэтаму – дзяржаўная заклапочанасць азначанай сферай. У 2014 годзе быў прыняты ініцыяваны Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына" Закон Рэспублікі Беларусь № 162-З "Аб беларусах замежжа". Таксама дзейнічае падпраграма "Беларусы ў свеце" ў рамках дзяржаўнай праграмы "Культура Беларусі" на 2016–2020 гады.

Даследчыкі беларускага замежжа адзначаюць шырокую геаграфію беларускай прысутнасці ў свеце і насычанасць беларускага жыцця за мяжой. Яны цешацца з таго, што матэрыялаў для даследчыцкай працы хопіць яшчэ не на адно пакаленне іх наступнікаў. Разам з тым "Бацькаўшчына" пераканалася ў нізкай абазнанасці грамадства і супрацоўнікаў дзяржаўных устаноў як пра істотны ўнёсак дыяспары ў развіццё беларускай прысутнасці ў розных краінах свету, гэтак і пра дапамогу з яе боку самой Беларусі.

Даць хуткі адказ на пытанне "Што дыяспара робіць для Беларусі?" цяжка яшчэ і таму, што паведамленні пра гэта альбо не трапляюць у СМІ, альбо губляюцца ў плыні навінаў і папросту забываюцца.

Праект ЗБС "Бацькаўшчына" "Дыяспара для Беларусі" (https://zbsb.org/info) мае на мэце запачаткаваць і развіваць адмысловы цэнтралізаваны рэсурс, агрэгатар інфармацыі пра найбольш значныя поспехі беларусаў-замежнікаў якраз у справе дапамогі самой Беларусі, як краіне, так і асобным ініцыятывам, установам і проста людзям.

Інфармацыя, якую мы сабралі і прапануем да Вашай увагі зараз, – толькі пачатак для своеасаблівай "энцыклапедыі", бо мы аднавілі далёка не ўсё, што зрабілі для краіны нашыя суродзічы з замежжа. Мы ведаем гэта дакладна! Таму звяртаемся да вас з просьбай распавесці, што вам вядома пра дапамогу Беларусі з боку дыяспары.

"Што дыяспара робіць для Беларусі?" Давайце разам распавядзем пра гэта самім сабе і ўсяму свету!

**Інфармацыйны цэнтр
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# МАЛАЯ РАДА ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА" ЎХВАЛІЛА ПЛАН ПРАЦЫ НА 2018 ГОД

22 лютага ў Мінску адбылося пасяджэнне Малой Рады "Бацькаўшчыны", падчас якога былі зацверджаныя фінансавая справаздача і справаздача дзейнасці Згуртавання за 2017 год, а таксама прыняты план працы на 2018 год.

Кіраўнік Згуртавання Алена Макоўская і старшыня Рады "Бацькаўшчыны" Ніна Шыдлоўская агучылі тое, што было зроблена Згуртаваннем цягам мінулага года. Асноўныя высілкі арганізацыі ў першым паўгоддзі былі скіраваныя на падрыхтоўку і правядзенне Сёмага з'езда беларусаў свету, які адбыўся ў Мінску 15-16 ліпеня. Паводле ацэнак удзельнікаў, мерапрыемства прайшло на высокім арганізацыйным узроўні. У ім узялі ўдзел 228 дэлегатаў, з якіх 115 дэлегатаў – прадстаўнікі беларускага замежжа з 20 краін. Гасцямі З'езда былі вядомыя беларускія культурныя і грамадскія дзеячы, прадстаўнікі міністэрстваў і Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу, Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, вышэйшых навучальных устаноў краіны, праваслаўнай, рыма-каталіцкай, грэка-каталіцкай канфесій, мусульманаў Беларусі.

Вынікам двухдзённай працы дэлегатаў Сёмага з'езда стала прынццe выніковых дакументаў, якія пасля З'езда былі дасланыя ў дзяржаўныя ўстановы Беларусі. На падставе гэтых матэрыялаў "Бацькаўшчына" будзе фармуляваць прапановы да дзяржаўных інстытуцый краіны і складаць планы дзейнасці Згуртавання на наступныя чатыры гады. Некаторыя вынікі працы дэлегатаў З'езда ёсць ужо сёння. Так, прапановы ў дзяржаўную стратэгію "Беларусь – дыяспары" ў 2017 годзе знайшлі разуменне ў Міністэрстве замежных спраў Беларусі і былі абмеркаваныя на пасяджэнні Кансультатыўнага савета па справах дыяспары пры МЗС у верасні 2017 года. У Калінінградзе з'явіцца вуліца імя Францішка Скарыны, а парэшткі княгіні Магдалены Раздзівіл перапахаваныя ў Мінску.



Згуртаванне працягвала ажыццяўляць планавую дзейнасць. Ішла праца над рэдызайнам сайта Аб'яднання і стварэннем новых рубрык: "Грамадскі ўдзел" і "Дыяспара для Беларусі".

"Бацькаўшчына" актыўна падтрымлівала сувязь з арганізацыямі беларускай дыяспары, брала ўдзел у грамадскіх акцыях. Так, накіравала звароты да Міністэрства замежных справаў Польшчы, у адміністрацыю Падляшскага ваяводства і ў Інстытут нацыянальнай памяці ў Варшаве ў адказ на прапанову апошняга ў межах працэсу "дэкамунізацыі" перайменаваць вуліцу і ліцэй імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім. А сітуацыя вакол надпісу на помніку Т. Касцюшкі ў Швейцарыі змусіла Згуртаванне звяртацца ў МЗС Беларусі і Польшчы.

"Бацькаўшчына" па-ранейшаму папулярызавала кнігі і выданні беларусаў замежжа, іх творчасць і дзейнасць. Выйшлі з друку наступныя серыйныя кнігі: В. Кіпель "Беларусы ў ЗША"; Н. Гардзіенка, Л. Юрэвіч "Хронікі БІНіМу". Згуртаванне "Бацькаўшчына" сумесна з Беларускім дзяржаўным архівам-музеем літаратуры і мастацтва і нью-ёркскім Беларускім інстытутам навукі і мастацтва заснавала новую кніжную падсерыю "Спадчына: агледзіны". Першай кнігай у ёй стала "Выбранае" Т. Грыба, другой – "Выбранае" У. Самойлы.

У партнёрстве з БІНіМам, Саюзам беларускіх пісьменнікаў, выдавецтвам "Лімарыус" быў праведзены другі конкурс на Прэмію імя Аляксандра і Марыі Стагановічаў у галіне непрыдуманай літаратуры. У супрацоўніцтве трох арганізацый – Саюза беларускіх пісьменнікаў, Беларускага ПЭН-цэнтра і Згуртавання "Бацькаўшчына" заснавана літаратурная прэмія за найлепшую кнігу паэзіі імя Наталлі Арсенневай.

З восені пачалася падрыхтоўка да важнага ў дзяржаватворчым працэсе юбілею – 100-годдзя абвяшчэння БНР. І да гэтай знакавай даты Згуртаваннем быў выдадзены насценны каляндар "Адрасы БНР. 1918–2018", які змяшчае выявы 12-ці будынкаў, у якіх у розны час адбываліся падзеі, звязаныя з БНР. Уклала каляндар гісторык Наталля Гардзіенка.

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" з'яўляецца ініцыятарам і каардынатарам грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!", якая па-ранейшаму ладзіць па ўсёй Беларусі разнастайныя публічныя мерапрыемствы, такім чынам уцягваючы ў кола беларушчыны раней незаангажаваных людзей (літаратурныя імпрэзы, выступленні беларускіх музыкаў, прэзентацыі кніг і дзіцячыя спектаклі лялечнай батлейкі, круглыя сталы, публічныя дыскусіі, конкурсы, шоу Беларушчыны і многае іншае).

Падрабязна пра ўсе мерапрыемствы кампаніі рэгулярна пішацца на сайце budzma.by, а пра самыя яскравыя падзеі кампаніі – незалежныя рэспубліканскія і рэгіянальныя сродкі інфармацыі.

У 2017 годзе ўсе літаратурна-мастацкія мерапрыемствы былі прымеркаваныя да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання і праходзілі пад слоганам "Наша Пяцісотгоднасць" з адпаведнай візуалізацыяй. У яе межах сіламі СБП і ЗБС "Бацькаўшчына" цягам года было праведзена больш за 400 літаратурных сустрэч у 93-х населеных пунктах з удзелам 91 творцы. На гэтых імпрэзах агулам прысутнічала каля 20 тысяч чалавек.

Сайт кампаніі budzma.by застаецца ўнікальным інфармацыйным парталам, праз які чытачы не толькі даведваюцца пра цікавыя культурныя імпрэзы па ўсёй Беларусі, але і атрымліваюць меркаванні экспертаў і калумністаў па важных, надзённых пытаннях жыцця нашай краіны.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**



навіны

# У ВІЛЬНІ ЎШАНАВАЛІ 180-УЮ ГАДАВІНУ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА

Таварыства беларускай культуры ў Літве і Віленская беларуская гімназія імя Францішка Скарыны 2 лютага ў Вільні на Лукішскім пляцы ў Вільні ўсклалі кветкі і запалілі зьнічы на тым месцы, дзе 22 сакавіка 1864 г. царскія карнікі пакаралі смерцю нацыянальнага героя Беларусі і Літвы Кастуся Каліноўскага.

Такім чынам ушанавалі 180-ую гадавіну з дня нараджэння нацыянальнага героя Літвы і Беларусі. Ён аддаў сваё маладое жыццё, каб новыя маладыя нацыі літоўцаў і беларусаў змаглі стаць вольнымі і незалежнымі. Тое семя свабоды, якое рассявалася тады, дае ўсходы і па сённяшні дзень, і прагу да волі не зламаць.

**ТБК**

навіны

# У Кішынёве паставілі помнік Скарыну работы Гэніка Лойкі. Адкрыццё – праз год

У скверы насупраць будынка амбасады Беларусі ў Кішынёве пачаўся мантаж помніка-бюста беларускаму першадрукару Францішку Скарыну. Аўтар – мінскі скульптар Гэнік Лойка.

Скульптура была прынятая экспертнай радай летась у кастрычніку, аднак праз брак сродкаў яе ўстаноўка ў малдаўскай сталіцы зацягнулася.

Гэнік Лойка ў гутарцы са Свабодай прызнаўся, што на ўзгадненне ні яго, ні архітэктара праекта не запрасілі. Да пастамента пакуль не прымацавалі шыльду.

У ліпені 2017 года Лойка быў абвешчаны пераможцам конкурсу эскізных праектаў на бюст Францішка Скарыны ў Кішынёве – ягоную заяўку прафесійнае журы прызнала найлепшай з дзясятка. Згодна з патрабаваннямі, кампазіцыйнае і пластычнае выкананне мусіла быць рэалізавана "ў найлепшых традыцыях класічнага і нацыянальнага манументальнага мастацтва".

Спачатку на помнік з улікам матэрыялу меркавалася патраціць не больш за 150 тысяч рублёў. Аднак у працэсе суму зменшылі ў 10 разоў. Прычым канчатковую лічбу назвалі ўжо пасля таго, як Лойку прысудзілі перамогу ў конкурсе. Скульптар кажа, што збольшага задаволены працай, за выключэннем некаторых нюансаў.



Па-першае, спачатку "замахнуўся" на манументальны твор вышынёй тры мэтры. Аднак у выніку помнік атрымаўся ў рост чалавека.

Па-другое, паразай завяршылася змаганне за напісанне імя Скарыны. Згодна з умовамі конкурсу, як сцвярджаюць арганізатары, на помніку павінен значыцца "Францыск", Лойка ж настойваў на варыянце "Францішак".

Па экспертную дапамогу Лойка звярнуўся ў Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук. У адказе з подпісам дырэктара ўстановы Ігара Капылова гаворыцца, што ў сучаснай беларускай мове варыянты Францыск і Францішак раўназначныя, таму вырашэнне пытання іх прыярытэтнасці знаходзіцца ў кампетэнцыі аўтараў мастацкіх, інфармацыйных, даведачных і іншых тэкстаў.

Раней Гэнік Лойка вырабіў узоры гліняных і металічных медальёнаў з серыі "Наша пяцісотгоднасць", дзе Скарына названы Францішкам. На аверсе – рысы твару першадрукара і юбілейная лічба 500.

Арганізацыяй конкурсу праектаў і вырабам скарынаўскага помніка-бюста для Кішынёва апекавалася Міністэрства культуры Беларусі. Там паведамілі Свабодзе, што афіцыйнае адкрыццё скульптуры з ініцыятывы малдаўскага боку перанесена на 2019 год. Аднак прычыны такой адтэрміноўкі не ўдакладняюцца.

Паводле "Радыё Свабода"

# Гісторык пра помнік Касцюшку ў Беларусі: "Прыязджайце і пакланяйцеся"

4 лютага не толькі беларусы, а і ўвесь свет адзначае 272 гады з дня нараджэння Тадэвуша Касцюшкі. Першы ў Беларусі помнік славутаму сыну нашай зямлі Тадэвушу Касцюшку ўжо неўзабаве паўстане на ягонай радзіме – у вёсцы Мерачоўшчына на Берасцейшчыне. У дзень народзінаў легендарнага генерала помнік нацыянальнага героя Беларусі, Польшчы і Злучаных штатаў прывезлі з Украіны.



Намеснік старшыні Беларускага аб'яднання ў Швейцарыі Алесь Сапега прывёз помнік з Украіны акурат у дзень, калі нарадзіўся нацыянальны герой Беларусі, Польшчы і Злучаных Штатаў.

"Я лічу што сам правоз помніка праз мяжу – гэта сімвалічнае вяртанне Касцюшкі ў Беларусь, вяртанне нашай памяці, вяртанне нашых нацыянальных герояў, вяртанне нашага гонару", – кажа журналіст, грамадскі актывіст Глеб Лабадзенка.

Ідэя паставіць помнік Касцюшку ў месцы, дзе ён нарадзіўся, узнікла падчас абмеркавання скульптуры ў швейцарскім Золётурне, дзе памёр знаны палкаводзец. Там урачыстае адкрыццё адбылося падчас ушанавання двухсотгоддзя з дня яго смерці летась у кастрычніку. І гэта быў першы помнік Касцюшку, фундаваны беларусамі.

"Усе мы ведаем, што атрымаўся канфлікт паміж Польшчай і беларусамі, калі паўстала пытанне пра шыльду, якая павінна быць на гэтым помніку, гэта і паўплывала на думкі беларусаў, каб сабрацца грашыма і зрабіць другі помнік Касцюшку ды паставіць у Беларусі", – распавядае Алесь Сапега з Беларускага Аб'яднання ў Швейцарыі.

Помнік паводле эскіза скульптара Гэніка Лойкі адлівалі ў Харкаве. А зафіксаваў гэты працэс адмыслова для "Белсату" наш украінскі глядач Аляксандр Кузьменка. Ён жа паразмаўляў са скульптарам Уладзімірам Райчэнкам, які стварыў швейцарскі помнік і дапамагаў адліваць беларускі.

Тадэвуш Касцюшка называў сябе ліцвінам, а ў сучасным разуменні – беларусам. Ён змагаўся за незалежнасць Злучаных Штатаў і кіраваў на нашых землях нацыянальна-вызваленчым паўстаннем за захаванне Рэчы Паспалітай, якую акупавалі ды дзялілі паміж сабою Прусія, Аўстра-Венгрыя і Расія. Расійскай арміяй, якая душыла паўстанне, кіраваў Аляксандр Сувораў. Але памяці Суворава прысвечана значна больш аб'ектаў у Беларусі – гэта не толькі вуліцы, але і музеі, і вайсковыя вучэльні, і нават праваслаўныя саборы.

Нават тыя гісторыкі, што не прызнаюць Тадэвуша Касцюшку беларусам, мяркуюць, што помнік яму ўсё ж трэба ўсталяваць – для прыцягнення замежных турыстаў.

"Калі палякі яго ўшаноўваюць, калі амерыканцы ўшаноўваюць – калі ласка, прыязджайце, пакланяйцеся", – кажа Анатоль Сідарэвіч.

Большасць беларусаў лічыць Касцюшку сваім героем. Гэта бачна і з таго, што грошай, сабраных праз краўдфандынгавую платформу, хапіла на скульптурную выяву большага памеру, чым планавалася спачатку. Цяпер вядуцца падрыхтоўчыя працы, і неўзабаве першы помнік Касцюшку ў Беларусі паўстане ў Марачоўшчыне.

ІД, "Белсат"

навіны

# ТЫДНЁВІК „НІВА" ЎЗНАГАРОДЖАНЫ РАДАЙ ГАЙНАЎСКАГА ПАВЕТА

Гайнаўскае старасства ў юбілейны дзясяты раз надала ганаровыя званні "Заслужаны для Гайнаўскага павета". Сёлета былі ўзнагароджаны 19 лаўрэатаў. На ўзнагароду вылучаюцца тыя, хто спрычыніўся да развіцця і рэкламы павета. Гэта асобы, арганізацыі ці прадпрыемствы.



Сярод сёлетніх "Заслужаных для Гайнаўскага павета" апынуўся Тыднёвік беларусаў у Польшчы "Ніва". Медаль атрымаў галоўны рэдактар "Нівы" Яўген Вапа: "Гэта перадусім узнагарода для "Нівы", а "Ніва" – гэта яе чытачы, карэспандэнты, журналісты, супрацоўнікі. "Ніва" – гэта неад'емная частка культурнай прасторы Падляшскага ваяводства, у тым ліку і Гайнаўскага павета. Наш Тыднёвік беларусаў Польшчы дае нейтральную дозу бачання свету і з пэўнай да яго дыстанцыі. Гэта адзін з тых культурных прадуктаў, які з'яўляецца неад'емным у жыцці кожнага чалавека".

Званне "Заслужаны для Гайнаўскага павета" атрымаў таксама звязаны з "Нівай" грамадскі дзеяч Віктар Бура. Цягам усіх дзесяці ўзнагароджанняў Гайнаўскае старасства ўручыла 103 медалі. Сярод заслужаных – прадстаўнікі культуры, навукоўцы, людзі бізнесу, палітыкі і духоўныя дзеячы.

**Давід Гайко, "Беларускае Радыё Рацыя"**

# "БЕЛЬСКАМУ ГАСЦІНЦУ" 20 ГАДОЎ

За 20 гадоў выйшла больш за 60 нумароў перыёдыка "Бельскі гасцінец". Са школьнай газеткі, якой у пачатку быў часопіс, ён з часам ператварыўся ў навуковае выданне.

У ім публікуюцца навукоўцы і краязнаўцы з Польшчы і Беларусі. Заснавальнікам і галоўным рэдактарам гэтага краязнаўча-культурнага зборніка з'яўляецца Дарафей Фёнік: "Школьная газетка пераўтвараецца ў навуковы часопіс – так было. Я проста нічога не планаваў, як яно мае быць у будучыні, усе гэта жыццё паказала, у якім кірунку будзе развівацца тое, што мы пачалі. А цяпер да нас пішуць навукоўцы з тытуламі прафесара, але я усё ж звяртаю ўвагу на рэдактарскі вобраз нашага часопіса, каб ён быў папулярны".

Зборнік выдаецца на беларускай, польскай мовах, ды на падляшскім дыялекце беларускай мовы. Выдаўцом "Бельскага гасцінца" з'яўляецца аб'яднанне Музей малой бацькаўшчыны ў Студзіводах.




**Уля Шубзда, "Беларускае Радыё Рацыя"**

# ЛЯ ГАРАДСКОЙ УПРАВЫ ГАЙНАЎКІ АДБЫЛАСЯ АКЦЫЯ "ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ"

На пляцы ля гарадской управы Гайнаўкі адбылася акцыя "Вечная памяць". На ёй ушаноўвалі ахвяр злачынстваў Рамуальда Райса "Бурага", якога лічаць сваім героем ультраправыя сілы, што з'ехаліся ў горад на Марш выклятых жаўнераў.



Акцыя "Вечная памяць" на цэнтральнай плошчы Гайнаўкі працягвалася паўгадзіны. Былі запаленыя зьнічы. Арганізатары чыталі спісы загінулых у Залеўанах, Шпаках, Занях, Вульцы-Выганоўскай і ў іншых месцах на Беласточчыне. У міжчасе прысутныя ставілі на помніку, які там знаходзіцца, ахвярам вайны і рэпрэсій, знічы. Гэтых знічоў было вельмі многа. Пазней людзі проста разышліся: пайшлі ў царкву Яна Хрысціцеля, бо праходзіць паніхіда ў памяць бязвінна загінулых. Арганізатары заклікалі сёння у 17 гадзін, калі скончацца ўсе маршы ў Гайнаўцы, каб людзі запалілі свечкі ў вокнах у памяць ахвяр і як сімвал таго, што Гайнаўка – не для нацыяналізму. Гэта такі мірны супраціў маршу, які на сцягах нясе забойцу мясцовых жыхароў.

У царкве Яна Хрысціцеля ў Гайнаўцы а 13-й гадзіне пачалася паніхіда ў памяць бязвінна загінулых ахвяр "Бурага".

**Беларускае Радыё Рацыя**



# МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ РОДНАЙ МОВЫ Ў ПАСОЛЬСТВЕ БЕЛАРУСІ Ў МАСКВЕ

19 лютага пасол Беларусі ў Расіі Ігар Петрышэнка ўрачыста адкрыў вечар беларускай мовы ў культурным цэнтры пасольства.

Вечар стаў чарговым прыкладам павагі да беларускай мовы. Гэтаму паспрыялі і дыпламаты пасольства, і госці з Беларусі, і беларусы Масквы.

"Сёння матчына мова і любоў да роднай зямлі застаюцца невычэрпнай крыніцай сілы і мудрасці нашага народа", – адзначыў І. Петрышэнка і заўважыў, што, нягледзячы на прадказанні аналітыкаў аб яе знікненні ў 21-м стагоддзі, мова пашырае свой уплыў у жыцці грамадства.

Вельмі кранальна выступіла на мерапрыемстве ў пасольстве кіраўніца Цэнтра беларускай мовы, літаратуры і культуры філалагічнага факультэту Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэту імя М. Ламаносава Ала Шэшкен. Яна адзначыла цікавасць да беларушчыны з боку студэнтаў, падтрымку з боку кіраўніцтва ўніверсітэта і ініцыятыўнасць з боку партнёраў з Гродзенскага ўніверсітэта. А. Шэшкен таксама распавяла пра сваё беларускае паходжанне.

Праграму вечара склалі спектакль Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа "Калісь глядзеў на сонца я...", сумесная выстава Міністэрства культуры, Нацыянальнага гістарычнага музея, Музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры "Творы беларускіх класікаў на сцэне. Чытаем класікаў разам", а таксама выступ гурту "Лірыца" Гомельскай абласной філармоніі. Артысты-коласаўцы з Віцебска ў спектаклі "Аповед пра Максіма Багдановіча" данеслі да слухачоў вершы паэта. На выставе былі прадстаўлены рэдкія беларускія выданні, эскізы дэкарацый і касцюмаў да спектакляў К. Крапівы, В. Вольскага, Я. Купалы, З. Бядулі, В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Аляхновіча, а таксама партрэты І. Буйніцкага, У. Галубка і г.д.

Кіраўніца грамадскай арганізацыі "Беларусы Масквы" Ала Тужылкіна звярнула ўвагу на тое, што ў Маскве рэгулярна праводзяцца дні беларускай мовы і літаратуры і заклікала далучацца да арганізацыі і ўдзельнічаць ў мерапрыемствах.

Шчыра кажучы, на вечарыне ў культурным цэнтры пасольства Беларусі ў Маскве (слова "мерапрыемства" тут не падыходзіць!) было рэдкае адчуванне беларускага свята, яднання ўсіх прысутных беларусаў Масквы вакол жыццёва важнай тэмы захавання моўнай спадчыны. Хацелася б спадзявацца, што ў наступным годзе мы пашырым свята роднай мовы. І будуць сярод нас шматлікія, вядомыя расіяне беларускага паходжання – палітыкі, вайскоўцы, прадстаўнікі навукі, культуры, грамадскіх колаў, сродкаў масавай інфармацыі і г.д. Яны ж таксама павінны памятаць пра свае карані і родную мову.

**Віктар Чайчыц, Масква**

навіны

# ...І ВЫБУХІ РОГАТУ Ў НЕЧАКАНЫХ МЕСЦАХ, І АПЛАДЫСМЕНТЫ Ў ФІНАЛЬНЫХ КАДРАХ!

Беларусы Канады знялі свой першы (дай Божа, не апошні!) фільм – музычную казку "То-то-то" – і атрымалі шчырае задавальненне ад яго на прэм'еры ў Беларускім грамадскім цэнтры Таронта 10 лютага 2018 г. Гэты фільм – выдатны прыклад таго, што можа зрабіць таленавітая і самаадданая каманда сцэнарыстаў, спевакоў, актораў, аператараў і мантажораў.



Па чырвонай дарожцы пад фанфары і авацыі гледачоў прайшлі ўсе ўдзельнікі праекту: выканаўцы галоўных роляў Інэса Церашчук, Ларыса Міхайлава, Аляксандра Саленік, Зміцер Леановіч, Надзея Дробіна, Ігар Уласічаў, Ігар Філюшкін, Ала Касцючэнка і Віялета Кавалёва, артысты, якія здымаліся ў эпізодах, выканаўцы вакальных партый, апаратары, мастакі і г.д. Усе акторы фільма, а таксама ўсе вакалісты – выканаўцы тарантаўскага спеўнага гурта "Яваровы людзі" (а таксама і "Яваровы дзеці"). А ў масавых сцэнах Купалля здымаліся жыхары Таронта і ваколіц.

"Яваровы людзі" знялі гэтае кіно па матывах аднайменнага музычнага спектакля, напісанага самімі ўдзельнікамі гурта і ўпершыню паказанага ў 2012 годзе, на Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі. У фільме ёсць кадры для ўсіх: таямнічыя вядзьмаркі і загадкавыя гандляры для аматараў чарадзейных казак, цёмныя сілы для прыхільнікаў "жахлівікаў", драма і эротыка для тых, хто любіць паплакаць над шчымлівай гісторыяй кахання, ёсць медытатыўнае яднанне з прыродай і нават дапаможнік па ткацтве паясоў. Чаго ў ім няма, дык гэта бессэнсоўнага гвалту і бязглуздага "мачылава".

Нягледзячы на феерыю музыкі і танцаў (хаця і не ў балівудскім стылі!), фільм атрымаўся адназначна беларускім. А сапраўдны галоўны герой гэтай відэастужкі – беларуская народная песня, і яе аматараў фільм не пакіне абыякавым. Ад свежай версіі ўсім вядомай "Купалінкі" мурашкі бягуць па спіне, колькі б разоў яе ні слухаў. У фільме прагучала васямнаццаць беларускіх народных песень, і ніводная з іх не была скарочана дзеля "зручнасці" мантажу. Усе песні, музыку і гук для "То-то-то" запісаў і звёў гукарэжысёр гурта "Яваровы людзі" Ігар Філюшкін. Кіраўнік гурта Віялета Кавалёва адмыслова для фільма зрабіла аранжыроўкі некаторых песень, а таксама інструментальныя апрацоўкі беларускіх мелодый. Фанаграма танцу "Падэспань" была запісаная выканаўцамі мінскага гурта "Вербіца" і выкарыстаная ў фільме з іх ласкавай згоды.

На прэм'еру кіно 10 лютага ў беларускі цэнтр сабралася больш за 70 чалавек.

Ларыса Міхайлава: "Даўно ў мяне не было такога добрага настрою, як пасля прагляду фільму! Асабіста для мяне гэты фільм будзе хронікай найлепшых момантаў майго канадскага жыцця, звязанага з "Яваровымі людзьмі". Вельмі прыемна было згадваць, як гэта ўсё адбывалася! Колькі цікавых успамінаў, звязаных і з Купаллем, і з Гай-паркам, і з хамутом. Гэты фільм будзе найлепшым сродкам супраць сумнага настрою ў будучыні!"

Ігар Філюшкін: "Ці варта казаць, што ўвесь праект быў рэалізаваны дзякуючы невычэрпнай энергіі і шылу ў адным месцы ў нашага бясстрашнага кіраўніка Віялеты Кавалёвай".

Зміцер Леановіч: "Вялікі дзякуй Ігару і Віялеце, рэжысёрам і мантажорам фільма, за доўгую і складаную працу! І асобны дзякуй за тое, што яны ў якасці бонуса зрабілі "фільм пра фільм" – паказалі, як здымаліся эпізоды. Гэта было супер, смешна, таленавіта".

У далейшых планах стваральнікаў "То-то-то" – выпуск DVD, аўдыёдыску з саўндтрэкам да фільму, а таксама падрыхтоўка версіі з ангельскімі субтытрамі і ангельскім закадравым тэкстам.

**Згуртаванне беларусаў Канады**




## БЕЛАРУСЫ Ў ПОЛЬШЧЫ НАМАГАЮЦЦА ВЫРАТАВАЦЬ "ЧАСОПІС"

Працягваюцца намаганні за тое, каб выйшаў з друку новы нумар "Часопіса".

Беларускі грамадска-культурніцкі штомесячнік ад студзеня спыніў сваю дзейнасць. Рэдакцыя "Часопіса", якой з'яўляецца Асацыяцыя беларускіх журналістаў, не стрымала тэрміну падачы заявак на фінансаванне Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі. Аднак, як гаворыць сябра Ўправы Асацыяцыі беларускіх журналістаў, Вячаслаў Харужы: "Мы абмяркоўвалі гэта на сходзе ўправы і робім усё, каб "Часопіс" выходзіў надалей".

**Анна Пятроўская, "Польскае Радыё"**

## МІТЫНГ ПРАТЭСТУ Ў НЬЮ-ЁРКУ СУПРАЦЬ БЛАКАВАННЯ "ХАРТЫІ'97"

4 лютага на Манхэтане Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне "Пагоня" зладзіла мітынг пратэсту супраць блакавання сайта "Хартыя'97" у Беларусі.

Каля ста чалавек сабраліся каля Генконсульства Беларусі і з дазволу паліцыі прайшлі маршам да будынку ААН. З прамовай выступіў старшыня БАЗ "Пагоня" Віталь Зайка.

**Віктар Дудараў**



навіны

# У МІНСКУ ПЕРАПАХАВАЛІ ПРАХ МАГДАЛЕНЫ РАДЗІВІЛ

Некаторыя вынікі працы дэлегатаў Сёмага з'езда беларусаў свету ёсць ужо сёння – парэшткі княгіні Магдалены Раздзівіл перапахаваныя ў Мінску. Урну з прахам змясцілі ў левай сцяне ў касцёле Святога Роха.



На пахаванне прыехалі Мацей і Мікалай Радзівілы, праўнукі Марылена і Адам Замойскія. Нашчадкі Магдалены Радзівіл выконвалі яе апошнюю волю – быць пахаванай у Менску.

"Яе прах вяртаецца на Радзіму", – сказаў дапаможны біскуп Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі Юры Касабуцкі. Ён узначаліў пахавальную цырымонію.

Юры Санько, пробашч касцёла Святога Роха, растлумачыў, чаму парэшткі Магдалены пахавалі ў гэтым храме. Паводле яго слоў, менавіта гэты касцёл быў адным з месцаў адраджэння беларускай каталіцкай культуры ў пачатку 1990-х. Тут размяшчаліся рэдакцыі каталіцкіх выданняў.

"Можна сказаць, Магдалена будзе сярод сваіх людзей", – сказаў на пахавальнай цырымоніі Адам Замойскі, праўнук Магдалены Радзівіл.

Да 2017 года Магдалена Радзівіл была пахаваная на могілках горада Фрыбур у Швейцарыі. У лютым 2017-га яе парэшткі эксгумавалі і адправілі ў крэматорый. У ліпені 2017 году ўрну з прахам прывёз у Беларусь Аляксандр Сапега, намеснік старшыні Асацыяцыі беларусаў Швейцарыі.

Меркавалася, парэшткі Магдалены Радзівіл будуць пахаваныя ў Чырвоным касцёле. Але за паўгода прадстаўнікі сям'і, улады і курыя Рымака-Каталіцкага касцёла пагадзіліся на перапахаванне ў касцёле Святога Роха ў Менску.

"Вяртанне праху Магдалены Радзівіл дадому заняло часу. Людзі пытаюцца, чаму не тады, чаму не там. Адказ на пытанне чаму тут і чаму сёння толькі адзін – так захацеў Бог", – сказаў на пахавальнай цырымоніі Глеб Лабадзенка, які таксама ўдзельнічаў у арганізацыі перапахавання Магдалены Радзівіл.

Паводле слоў Юрыя Санько, у парафіі Святога Роха будуць ладзіць творчыя вечарыны Магдалены Радзівіл – кожную суботу пасля дня смерці Магдалены. Таксама Юры Санько заявіў пра намер адкрыць фонд імя Магдалены Радзівіл для падтрымкі таленавітай моладзі.

**Паводле "Радыё Свабода"**

# ЗНОЙДЗЕНАЯ МАГІЛА КІРАЎНІКА ЎРАДА БНР ЯЗЭПА ВАРОНКІ

Беларускі сацыяліст Язэп Варонка быў у цэнтры падзей 1918 года, дзякуючы якім беларусы аднавілі сваю дзяржаўнасць.

Сябар Цэнтральнага камітэта Беларускай сацыялістычнай грамады, Варонка ўваходзіў у Вялікую беларускую раду, а пасля стаў старшынёй урада, які называўся тады Народны Сакратарыят, і міністрам замежных спраў Беларускай Народнай Рэспублікі. Калі Расія і Польшча ўрэшце падзялілі Беларусь між сабой, Варонка выехаў у ЗША. Ад 1923 года ён жыў у Чыкага.




Было вядома, што першы старшыня Народнага Сакратарыята Беларускай Народнай Рэспублікі Язэп Варонка пахаваны на праваслаўных могілках у Чыкага, але дзе канкрэтна – ніхто не ведаў. І вось навіна: Варонкава магіла знойдзена.

А яшчэ праз суткі, дзякуючы дапамозе грэка-каталіцкага святара ў Злучаных Штатах а. Ігара Лабацэвіча, я па электроннай пошце звязаўся з іншым каталіцкім святаром – а. Аляксандрам Аўдзеюком, які раней служыў у Менску ў візантыйскім абрадзе, а цяпер служыць у Амерыцы ў абрадзе лацінскім.

Айцец Аляксандр Аўдзяюк, які знайшоў магілу Язэпа Варонкі і ягонай жонкі Марыі, паведамляе, што могілкі, дзе пахаваныя сужэнцы Варонкі, маюць назву Элмвуд. Поўная іх назва на англійскай мове – Elmwood Cemetery and Mausoleum. Знаходзяцца яны ў Рывэр Гроўв (River Grove). Гэта прыгарад Чыкага. У большасці там пахаваныя праваслаўныя – грэкі і славяне.

Магілу Язэпа Варонкі а. Аляксандр знайшоў у верасні 2017 г. Святар пабываў таксама на каталіцкіх могілках Святога Адальберта (St Adalbert Cemetery). Яны знаходзяцца ў іншым прадмесці Чыкага – Найлс (Niles). Там святар лакалізаваў магілы Будзькаў (аднаго з піянераў беларускага руху XX ст. Эдварда Будзькі і яго родных), педагога і вайсковага дзеяча Міколы Дзямідава ("па кудзелі" быў родзічам Кастуся Каліноўскага), кампазітара Міколы Кулікoвіча, Пануцэвічаў (гісторыка Вацлава Пануцэвіча і яго родных). На могілках Св. Адальберта пахаваны таксама сябар Рады БНР, яе дыпламат Янка Чарапук (Змагар), шматгадовы паплечнік Язэпа Варонкі і адзін з арганізатараў беларускай дыяспары ў ЗША у міжваенны перыяд і пасля Другой сусветнай вайны.

Айцец Аляксандр Аўдзяюк праслаў мне свае фотаздымкі магілаў Язэпа і Марыі Варонкаў. Гэтыя здымкі наводзяць на роздум.

Добра, што магілы Язэпа Варонкі ды іншых нашых дзеячаў знойдзеныя, і а. Аляксандру належыць за гэта падзяка. Нядобра, што кіраўнік першага ўрада Беларусі і яго жонка ляжаць пад сціплымі плітамі з іншамоўнымі надпісамі. Беларускае грамадства (як на Бацькаўшчыне, так і ў дыяспары) магло б сабраць сродкі на годныя (не пампезныя) помнікі першаму прэм'ер-міністру Беларусі, чый подпіс стаіць пад Устаўнымі Граматамі Беларускай Народнай Рэспублікі, і ягонай жонцы.

**Анатоль Сідарэвіч, "Наша Ніва"**

навіны

# САЮЗ БЕЛАРУСАЎ ЛАТВІІ Ў ЧАЦВЁРТЫ РАЗ ПРАВЁЎ КОНКУРС ДАСЛЕДЧЫХ РАБОТ "БЕЛАРУСЫ ЛАТВІІ. МІНУЛАЕ І СУЧАСНАСЦЬ"

У Даўгаўпілсе прайшло ўручэнне сертыфікатаў лаўрэатам конкурсу даследчых работ "Беларусы Латвіі. Мінулае і сучаснасць", які ўжо чатыры гады праводзіць Саюз беларусаў Латвіі пры падтрымцы Беларускага дзяржаўнага педуніверсітэта імя Максіма Танка на чале з рэктарам Аляксандрам Жуком.

На гэты раз лепшыя вынікі паказалі прадстаўнікі Латгаліі. Генеральны консул Беларусі ў Даўгаўпілсе Уладзімір Клімаў задаволены тым, што конкурс сабраў шмат удзельнікаў і што ягоныя мэты адлюстроўваюць інтарэсы як Латвіі, так і Беларусі. Кіраўніца СБЛ Валянціна Піскунова падзякавала ўдзельнікам конкурсу, які прыцягнуў і моладзь, і краязнаўцаў да вывучэння беларускай культуры ў Латвіі.



Адкрыццё мінулагодняга конкурсу – праца шасцікласніцы Краслаўскай сярэдняй школы "Varavīksne" Джэсікі Зданоўскай "Корни есть не только у деревьев. Уроки моей прабабушки". Бадай, за ўвесь час правядзення конкурсу гэта – яго самая маладая ўдзельніца. Джэсіка прызналася, што амаль кожны тыдзень з бацькамі ездзіць у Беларусь.

У намінацыі "Цікавыя асобы" адзначана праца сацыяльнага педагога з Краславы Жанны Драздоўскай "Венец царя Берендея" – аналітычны партрэт майстра, паэта, музыкі Яўгена Ільінца. У даследаванні ёсць рэпрадукцыі карцін і скульптур, вершы Яўгена і самой аўтаркі працы. Аповед раскрывае душу цудоўнага чалавека, патрыёта, актывіста беларускай суполкі Краславы.

Супрацоўнікі Лудзенскага краязнаўчага музея ўдзельнічалі ў конкурсе трэці год. Рыта Кучане і Валеры Дзевалтоўскі сумесна з дырэктаркай музея Міланай Буле прысвяцілі даследаванне Ігару Ермакову, кіраўніку Лудзенскага беларускага таварыства "Крыніца": "Мы выбралі героем сваёй працы Ігара Ермакова – гэта чалавек ідэі, альтруіст. Ён імкнецца развіваць нашу беларускую суполку, прыцягнуць у яе новых сяброў. Нядаўна ў нас арганізаваўся ансамбль, Ігар прыцягнуў да кіраўніцтва Веру Дайнеку, дырэктарку Зілупскай музычнай школы. Хацелася "зняць капялюш" перад такім чалавекам".

Алёна Лазарава нагадала: за 4 гады сабрана 59 работ, а Саюз беларусаў Латвіі працягне конкурс і надалей, бо такая супольная даследчыцкая праца надзвычай важная: "Здаецца, і ведаем людзей, але штораз адкрываюцца новыя таленты, і ў 2018-м конкурс будзе скіраваны на тое, каб паказаць сувязі нашай радзімы Латвіі і нашай этнічнай радзімы – Беларусі". Старшыня СБЛ Латвіі Валянціна Піскунова падкрэсліла важнасць удзелу ў конкурсе моладзі. Цяпер, нагадала яна, Саюз беларусаў Латвіі мае магчымасць накіроўваць супляменнікаў, выпускнікоў латвійскіх школ, бясплатна вучыцца ў вышэйшых навучальных установах Беларусі, а суарганізатар конкурсу, Беларускі дзяржаўны педуніверсітэт імя Максіма Танка, запрашае лаўрэатаў у Мінск, каб пазнаёміцца з магчымасцямі атрымання педагагічных спецыяльнасцей ці павучыцца на курсах павышэння кваліфікацыі для настаўнікаў. Удзельнікі конкурсу атрымалі таксама падарункі ад Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур Беларусі.

Напрыканцы Рыгор Свердлік, асістэнт дэпутата Еўрапарламента ад Латвіі Андрэя Мамыкіна, намесніка старшыні дэлегацыі па супрацоўніцтве з Рэспублікай Беларусь, адзначыў, што дэпутат Мамыкін цесна супрацоўнічае з Саюзам беларусаў Латвіі, высока ацэньвае яго дзейнасць і лічыць правядзенне такога конкурсу даследчых работ надзвычай карысным для развіцця супрацы і сяброўства паміж краінамі. Ад імя Андрэя Мамыкіна Рыгор выдаў сертыфікаты на паездку ў Брусель людзям, якія актыўна ўдзельнічалі як у арганізацыі конкурсу, так і ў стварэнні цікавых даследаванняў. Паездкай у Брусель узнагароджаны і сяброўка даўгаўпілскай беларускай суполкі "Уздым" Валянціна Ліпінская, кіраўніца Даўгаўпілскага Цэнтра беларускай культуры Жанна Раманоўская, сябры екабпілскай беларускай суполкі "Спатканне" Іна Янсанэ, Міхаіл Прановіч, Тамара Бухціярава і Зінаіда Грынько.

**Алёна Міцкевіч, "Голас Радзімы"**

навіны "Будзьма беларусамі!"

## Тыдзень Роднай мовы

Штогод за тыдзень да канца зімы міжнародная супольнасць адзначае Дзень Роднай мовы. Культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!" запусціла марафон сустрэч да Дня Роднай мовы.

Стартаваў марафон **19 лютага** ў дзіцячай бібліятэцы №10 г. Мінска. Для навучэнцаў 121-й сярэдняй школы выступаў Юрый Усціновіч – аўтар дзіцячых кніг пра майстра Рукшу, Яську і яго каня Грыўку. Спадар Юрый падзяліўся сваім захапленнем – рэканструкцыяй узбраення XIII–XVII стст. Разам з Андрэем Дундуковым госць прадэманстраваў тэхніку валодання шабляй, а прысутныя паказалі веданне роднай мовы ў віктарыне ад кампаніі "Будзьма!". У гэты ж дзень паэтэса Вера Буланда выступіла перад навучэнцамі ліцэя №1 г. Барысава з вершамі, уласнымі і беларускіх класікаў. Ліцэісты і настаўнікі дэманстравалі свае веды ў беларускай літаратуры. Самыя актыўныя суразмоўцы атрымалі прызы ад кампаніі "Будзьма!".

**20 лютага** ва ўтульную залу Цэнтральнай дзіцячай бібліятэкі імя М. Астроўскага завіталі навучэнцы 105-й і 145-й сярэдніх школ г. Мінска. Тут іх чакалі віктарына ад "Будзьма!" і ваярскія забаўкі (выступоўцы – Юрый Усціновіч і Андрэй Дундукоў). Прадстаўнік кампаніі "Будзьма!" за правільныя адказы ўручаў часопісы "Дзеяслоў", паштоўкі "Не маўчы па-беларуску" і іншыя падарункі ад "Будзьма!" ды Саюза беларускіх пісьменнікаў. Жыцькаўскую сярэднюю школу (Барысаўскі раён) наведала Вера Буланда. Яна адказвала на пытанні вучняў і настаўнікаў радкамі вядомых беларускіх вершаў. У Гарадзенскую этна-краму "Цудоўня" завітаў пісьменнік Алесь Кіркевіч – ён прэзентаваў кнігу "Самурай". Таксама ў імпрэзе ўзялі ўдзел музыка Алесь Дзянісаў і рэдактар "Самурая" Валер Руселік.

**21 лютага** ў Цэнтральнай дзіцячай бібліятэцы імя М. Астроўскага адбылося 2 сустрэчы: для дзетак 3-х класаў СШ №67 г. Мінска і для навучэнцаў будаўнічага ліцэя №10. Драматург Васіль Дранько-Майсюк разам з прадстаўніком кампаніі "Будзьма!" прэзентаваў новае выданне "Азбукі" Рыгора Барадуліна. Гледачы самі ставілі спектаклі па вершах з кнігі, ілюстравалі вершы дзядзькі Рыгора. Для падлеткаў з ліцэя выступалі пісьменнік Юрый Усціновіч і рэканструктар Андрэй Дундукоў – гаворка ішла пра мову, пра гісторыю. Праводзіліся забаўкі з вяроўкай, шабляй, калодкамі, а таксама моўная віктарына – самыя "спрытныя" атрымалі прызы ад кампаніі "Будзьма!" і Саюза беларускіх пісьменнікаў. А ў бібліятэку №14 імя Ф. Багушэвіча завітаў тэатр "Лямцавая батлейка". Дзецям з садка №284 паказалі спектакль "Мама Му ў басейне" ў выкананні Веранікі Фаміной і Бэлы Кавальковай. Гледачы пазнаёміліся з беларускімі словамі "крумкач", "хвалі", "маланка", "захраснуць". Напрыканцы сустрэчы дзеці атрымалі памятныя падарункі ад кампаніі "Будзьма!" і медалі ад крумкача Крага і Мамы Му. У сярэдняй школе №54 г. Мінска адкрыты ўрок "Скарбонка роднай мовы" для 11-х класаў правёў літаратар Алесь Емельянаў-Шыловіч. У Беларускую дзяржаўную акадэмію музыкі завітала пісьменніца Алена Казлова (Анка Упала). Яна падняла пытанне гендару, распавяла пра сваю творчасць і ўручыла акадэмічнай бібліятэцы кнігі ад Саюза беларускіх пісьменнікаў. Удзельнікі сустрэчы атрымалі падарункі ад кампаніі "Будзьма!". На Гарадзеншчыне адбыліся сустрэчы з бардам Андрэем Мельнікавым і літаратарамі Георгіем Ліхтаровічам і Анатолем Зэкавым. Андрэй Мельнікаў і навучэнцы базавай школы в. Вялікія Вераб'евічы спявалі і чыталі вершы. На Дзятлаўшчыне Анатоль Зэкаў гаварыў пра ролю мовы ў гісторыі беларускай дзяржаўнасці. Самыя актыўныя ўдзельнікі сустрэч атрымалі прызы ад кампаніі "Будзьма!". 4 каманды навучэнцаў Маладзечанскага музычнага каледжа імя Міхаіла Агінскага спаборнічалі ў веданні роднай мовы – перамагла каманда "Блакітныя гузікі". Удзельнікі атрымалі падарункі і прызы ад кампаніі "Будзьма!", а завяршыў імпрэзу выступ Міхала Бараноўскага, які граў песні на ўласныя вершы, а таксама на вершы Уладзіміра Караткевіча, Максіма Багдановіча і Алеся Наўроцкага. Ляхавіцкая гімназія Барыса Сачанку, Алеся Разанава і Анатоля Івашчанку. Сустрэча сабрала больш за 100 цікаўных. Гаворка ішла пра беларускую мову і сучасны стан беларускай літаратуры. Госці чыталі вершы і спявалі.



**22 лютага** марафон працягваўся...

**Працяг артыкула і болей навінаў чытайце на budzma.by**

навіны

# У КІЕВЕ СКЛАЛІ ПЛАН СВЯТКАВАННЯ 100-ГОДДЗЯ БНР: БУДЗЕ ШЭСЦЕ І ФЛЭШ-МОБ

У Кіеве створаны арганізацыйны камітэт для адзначэння 100-годдзя БНР. У яго ўвайшлі прадстаўнікі руху салідарнасці "Разам" і Народнага руху Украіны.

Сустрэча арганізатараў адбылася ў нядзелю, 11 лютага ў кіеўскім Музеі шасцідзясятніцтва. Прадстаўнікі руху салідарнасці "Разам" Вячаслаў Сіўчык і Ігар Лялькоў расказалі пра гісторыю і сучаснасць барацьбы за беларускую дзяржаўнасць.

На сустрэчы было прынятае рашэнне стварыць Арганізацыйны камітэт для адзначэння 100-годдзя БНР у Кіеве. Да працы камітэту далучылася і палітычная партыя – Народны рух Украіны.

Як паведаміў прадстаўнік руху салідарнасці "Разам" у Кіеве Алег Аўчыннікаў, акцыя да 100-годдзя БНР у Кіеве адбудзецца адначасова з акцыяй у Мінску. У Кіеве пройдзе шэсце па беларускіх мясцінах Кіева, у тым ліку да месца гібелі Міхася Жызнеўскага, да помніка Ўладзіміру Караткевічу каля амбасады Рэспублікі Беларусь. Таксама аддадуць пашану і ўкраінскаму палітыку Вячаславу Чарнавілу, помнік якому знаходзіцца ля месцаў сутыкненняў дэманстрантаў з міліцыяй у 2014 годзе на вуліцы Грушэўскага.



За гадзіну да пачатку шэсця плануецца флэшмоб "Гадзіна свабоды", калі кожны ахвотны зможа павіншаваць Беларусь з Днём Волі ў анлайн-стрыме.

Арганізацыйны камітэт правядзе яшчэ шэраг пасяджэнняў, падчас якіх удакладніць акалічнасці святкавання 100-годдзя БНР і паспрабуе залучыць як мага больш арганізацый да супрацоўніцтва, паведаміў "Свабодзе" Алег Аўчыннікаў.

**Паўло Зуб'юк, "Радыё Свабода"**

# НА ГЛЫБОЧЧЫНЕ ПАХАВАЛІ ЭМІГРАЦЫЙНАГА ДЗЕЯЧА ВІКТАРА СЯНКЕВІЧА

Праз чатыры месяцы пасля смерці прах Віктара Сянкевіча, былога журналіста "Радыё Свабода" і эміграцыйнага дзеяча, пахавалі на Глыбоччыне. На могілкі ў вёску Гірстуны Глыбоцкага раёна прыехалі толькі самыя родныя памерлага ды журналісты.

Яго прах і прах сваёй маці Ірыны прывёз сын Сянкевіча Міхаіл з Сан-Францыска. З Амерыкі прыехалі таксама яго жонка і сын. Спачатку адбылася паніхіда ў царкве, увечары – служба ў касцёле Святой Тройцы ў Глыбокім.

Паводле Міхаіла Сянкевіча, бацька памёр 26 верасня, маці – 11 год таму, але яны захоўвалі прах, каб пахаваць іх разам на радзіме бацькі па яго запавеце. Самому Віктару Сянкевічу пасля эміграцыі так і не давялося наведаць радзіму: "Заўсёды хацеў, але не прыязджаў. Пасля таго, як памерла маці, я з ім размаўляў некалькі разоў, ён казаў, што хацеў бы, каб яго пахавалі ў Беларусі. Мая бабуля там пахаваная, у наступным годзе я пастаўлю помнік на ўсіх трох".

Віктар Сянкевіч (сапраўднае прозвішча Сенькавец) нарадзіўся 19 студзеня 1926 г. у вёсцы Гірстуны Глыбоцкага раёна. Ваяваў у арміі генерала Андэрса, быў адным са стваральнікаў Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі. На эміграцыі з лета 1944 года.

Працаваў у беларускіх секцыях Іспанскага нацыянальнага радыё і "Радыё Свабода". На "Радыё Свабода" меў псеўданім Язэп Барэйка і вёў перадачу "Беларускі гістарычны каляндар".

**Таццяна Смоткіна, Беларускае Радыё Рацыя**



# ІНІЦЫЯВАНЫ ЗБОР ПОДПІСАЎ ЗА ЎШАНАВАННЕ Ў НАВАГРАДКУ ІМЯ БАРЫСА КІТА



Актывісты заклікаюць перайменаваць вуліцу Савецкую ў Наваградку на вуліцу ў гонар ганаровага грамадзяніна горада Барыса Кіта, які памёр 1 лютага на 108-ым годзе жыцця.

Падпісанты петыцыі лічаць, што імем Барыса Кіта павінна быць названая менавіта адна з цэнтральных вуліц горада, што было б найвялікшай гістарычнай справядлівасцю, каб "у самым сэрцы горада знаходзіліся б дзве вуліцы, названыя ў гонар славутых сыноў Навагрудчыны – Адама Міцкевіча і Барыса Кіта". У петыцыі цытуюцца словы Барыса Кіта, пра тое, што "атрымаць званне ганаровага грамадзяніна Навагрудка было для яго найважнейшай пашанай".

Барыс Кіт быў найстарэйшым беларусам свету, вядомым беларускім дзеячом замежжа, выбітным навукоўцам-астрафізікам.

**ММ, "Радыё Свабода"**

## Беларускі каляндар памятных дат на сакавік 2018 года

1 сакавіка – 115 гадоў таму, у 1903-м, нарадзіўся Алесь Змагар (сапр. Аляксандр Яцэвіч), удзельнік Слуцкага паўстання, літаратар, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Аўстрыі, Францыі і ЗША.

1 сакавіка – 85 гадоў таму, у 1933-м, памёр Уладзімір Жылка, паэт.

2 сакавіка – 40 гадоў таму, у 1978-м, у Нью-Ёрку памёр Уладзіслаў Рыжы-Рыскі, грамадскі дзеяч, дзеяч эміграцыі ў Бельгіі, Італіі, Іспаніі і ЗША.

5 сакавіка – 155 гадоў таму, у 1863-м, памёр Андрэй Патабня, удзельнік паўстання.

6 сакавіка – 185 гадоў таму, у 1833-м, нарадзіўся Іван Бялькевіч, мовазнавец.

7 сакавіка – 75 гадоў таму, у 1943-м, памёр Фабіян Акінчыц, палітычны дзеяч.

7 сакавіка – 35 гадоў таму, у 1983-м, памёр Антон Сокал-Кутылоўскі, вайсковы дзеяч, адзін з кіраўнікоў антысавецкага Слуцкага паўстання.

8 сакавіка – 90 гадоў таму, у 1928-м, памёр Пётр Крачэўскі, палітычны дзеяч, гісторык, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

9 сакавіка – 135 гадоў таму, у 1883-м, нарадзіўся Францішак Аляхновіч, драматург.

9 сакавіка – 65 гадоў таму, у 1953-м, памёр Мікола Равенскі, кампазітар, фальклярыст, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Бельгіі.

11 сакавіка – 115 гадоў таму, у 1903-м, нарадзіўся Тодар Кляшторны, паэт.

11 сакавіка – 105 гадоў таму, у 1913-м, памёр Андрэй Вількіцкі, гідрограф-геадэзіст.

14 сакавіка – 75 гадоў таму, у 1943-м, памёр Васіль Захарка, палітычны дзеяч, старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (1928–1943).

16 сакавіка – 165 гадоў таму, у 1853-м, памёр Канстанцін Тызенгаўз, прыродазнавец.

16 сакавіка – 110 гадоў таму, у 1908-м, нарадзіўся Васіль Кендыш, грамадскі дзеяч, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

17 сакавіка – 210 гадоў таму, у 1808-м, нарадзіўся Шыман Канарскі, удзельнік паўстання 1830–1831 гг..

18 сакавіка – 260 гадоў таму, у 1758-м, памёр Тамаш Жаброўскі, архітэктар, астраном, матэматык.

19 сакавіка – 250 гадоў таму, у 1768-м, нарадзіўся Адам Храптовіч, удзельнік паўстання 1794 г.

23 сакавіка – 40 гадоў таму, у 1978-м, памёр Рыгор Шырма, грамадскі дзеяч, фальклярыст.

25 сакавіка – Дзень Волі.

25 сакавіка – 60 гадоў таму, у 1958-м, памёр Аляксей Кабычкін, удзельнік Слуцкага паўстання.

30 сакавіка – 35 гадоў таму, у 1983-м, памерла Аўгіння Каранеўская (дзяв. Воўк-Левановіч), дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

31 сакавіка – 115 гадоў таму, у 1903-м, нарадзіўся Міхась Маскалік, грэка-каталіцкі святар, навуковец.

31 сакавіка – 80 гадоў таму, у 1938-м, расстраляны Фелікс Купцэвіч, пісьменнік, крытык.

**Беларусы ў свеце**
No 2 (189), люты 2018
Інфармацыйны бюлетэнь МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі. Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27